


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 3 (139), ЛЮТЫ 2012 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Ва ўмовах тыраніі лягчэй дзейнічаць, чым думаць.**

**Ганна Арэндт.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## СПОРТ ДЗЕЛЯ МІРУ

**Спартыўныя спаборніцтвы прыйшлі ў сучасны свет з антычнасці. Пад час алімпійскіх гульняў у старажытнай Грэцыі спыняліся войны. П'ер дэ Кубертэн, які аднавіў алімпійскі рух напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя заклікаў: "Спорт, ты – мір". І алімпійская гульні не праводзіліся пад час сусветных войнаў.**

Адначасова з гэтым сфарміраваўся прынцып, што спорт па-за палітыкай. Статуты міжнародных арганізацый прадугледжваюць няўмяшальніцтва дзяржавы ў спартовыя справы. Інакш выглядае сітуацыі на Беларусі, дзе за часы кіравання першага прэзідэнта, сфармавалася ўстойлівая традыцыя куратарства спорта дзяржаўнымі службоўцамі або праўладнымі бізнесоўцамі. На чале спартовых федэрацый у краіне стаяць прадстаўнікі адміністрацыі, бізнесмэны, кіраўнікі сілавых структур або з розных міністэрстваў. Ды і сам кіраўнік краіны ўзначальвае Нацыянальны алімпійскі камітэт, які па азначэнню павінен быць па-за палітыкай.

Але калі адзіны палітык у краіне так апякуецца спортам, то сама палітыка прыходзіць у спорт. І атрымліваецца так, што калі міжнародныя структуры крытыкуюць адзінага палітыка, уводзяць санкцыі супраць парушальнікаў праў чалавека на Беларусі, то гэта рэкашэтам адбіваецца і на спорце. Бо менавіта воляй кіраўніка краіны спорт уцягнуты ў палітыку. Ад дадзенага становішча церпяць як спартсмэны, так і аматары спорту.

Самыя яскравыя прыклады датычацца чэмпіянату свету па хакею, які павінен адбыцца ў 2014 годзе на Беларусі, а таксама сітуацыя з патронамі для біятлоннай зборнай краіны. Напрыклад, у свеце расце хваля пратэсту супраць правядзення чэмпіяната свету на Беларусі. Еўрапейскі парламент, ЗША патрабуюць атабраць першынство ў Беларусі пакуль у яе турмах будуць знаходзіцца палітычныя вязні: кандыдаты ў прэзідэнты і дэмакратычныя актывісты, а таксама тыя, хто адбывае пакаранне па палітычна матываваных жорсткіх прысудах. І міжнародная федэрацыя хакею мусіць лічыцца з гэтай пазіцыяй. Федэрацыя вымушана ў чарговы раз разглядаць гэтае пытанне. І калі прагназаваць, што турнір застанецца на Беларусі, то не факт, што яго не прабайкатуюць вядучыя хакейныя каманды, якія могуць прысылаць на турнір дублёраў.

А ўсё палягае у тым, што у краіне у турмах трымаюць палітычных вязняў з якіх здзекуюцца, ігнаруецца права грамадзян на мірныя сходы, маніфестацыі, аб'яднанне у палітычныя партыі. Аналагічная сітуацыя склалася і з патронамі для біятлоннай каманды, якія адмовілася пастаўляць нямецкае прадстаўніцтва фінскай фірмы „Lapua" ў сувязі з эмбарга з боку Еўрапейскага саюза ў адносінах да Беларусі.

Выхад тут канешне просты – выпусціць палітычных вязняў і заўтра патроны будуць у нашых біятланістаў. Але на гэта не ідзе кіраўнік краіны. Мы ўсе становімся вязнямі яго недальнабачнай палітыкі, якая пакідае краіну на ўзбочыне цывілізаванага гасцінцу. І чым далей цярпець валюнтарыскія дзеянні вышэйшага беларускага кіраўніцтва, як у палітыцы, так і эканоміцы, то лепш пазбавіцца ад гэтага кіраўніка. Пазбавіцца на свабодных дэмакратычных выбарах, дзе галасы будуць лічыць прадстаўнікі ўсіх кандыдатаў. А не толькі аднаго, які асабіста захоўвае на працягу дзесяцігоддзяў вышэйшае кіраўніцтва цэнтрвыбаркама зразумела для якіх мэтаў. Пасля дэмакратычных выбараў на Беларусі спорт сапраўды стане шляхам міру і паразумення. І нам не трэба будзе разглядаць у спартсмэнах грамадзян, якія ведаюць аб рэальным стане спраў у краіне.

**Леанід Гаравы.**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ГРАФІК ЗНОСУ

**Графік на ўцягненне ў гаспадарчае абарачэнне невыкарыстоўваемых аб'ектаў камунальнай уласнасці, які зацвердзіў Гарадоцкі райвыканкам 27 студзеня ў абсалютнай большасці складаецца з аб'ектаў, якія падлягаюць зносу.**

Рашэннем №82 ад 27 студзеня Гарадоцкі райвыканкам зацвердзіў дадзены графік уцягнення, які складзены з 59 аб'ектаў. Гэты графік самы вялікі з раённых графікаў Віцебшчыны, бо за 17 гадоў кіравання першага прэзідэнта, наш раён валодае самай вялікай колькасцю невыкарыстоўваемых плошчаў камунальнай уласнасці. І дзеля таго, каб ад слоў пераходзіць да спраў, вышэйшая улада запатрабавала ад райвыканкамаў скласці графікі ўцягнення аб'ектаў у гаспадарчае абарачэнне.

Толькі зацверджаны графік фармальна з'яўляецца графікам уцягнення аб'ектаў у гаспадарчую дзейнасць. З 59 аб'ектаў 33 вызначаны пад знос, пад знішчэнне, яшчэ 2 пад кансервацыю, 2 пад рэканструкцыю, 7 на выкарыстанне ва ўласных патрэбах, а 15 аб'ектаў на продаж. З гэтых аб'ектаў першым выстаўлены на продаж былы будынак ваенкамата 1928 года пабудовы.

Самую вялікаю колькасць аб'ектаў зносіць КУСГП імя Дзімітрава – 19, другое месца з чатырма аб'ектамі дзеляць КУСГП імя Свердлава і КУСГП "Маяк". Гэтыя прадпрыемствы плануюць знесці кацельныя, адміністратыўныя будынкі, сталовыя, склады, якія невыкарыстоўваюцца, як мінімум два гады, але большая частка іх невыкарыстоўваецца ўжо з пачатку стагоддзя.

Фактычна знішчаецца ўласнасць, якая створана пакаленнямі сельскіх працаўнікоў і засталася без належнага нагляду за годы кіравання першага прэзідэнта. Пры існуючай дзяржаўнай палітыцы сельскае насельніцтва Гарадоччыны за апошнія сямнаццаць гадоў зменшылася больш, чым удвая: з 24 тысяч да амаль дзесяці тысяч. Пры такім катастрафічным дэмаграфічным спадзе, які прыйшоўся быццам бы і не на ваенныя гады, безумоўна з'явяцца невыкарыстоўваемыя аб'екты. Але іх знішчэннем становішча не выправіць. Калі уладзе не патрэбны ініцыятыўныя, самастойныя грамадзяне, якія маюць права выбара, то і атрымліваецца дэградацыя перш за ўсё сельскага жыцця.

І для выпраўлення сітуацыі грамадзянам павінна быць вернута права выбару, якое за апошнія дзесяцігоддзі ўзурпіравала наменклатура. Для пачатку неабходна аднавіць падзел уладаў, які знік па выніках нелегітымнага рэферэндума 1996 году.

**Л. Гаравы.**



РАЗБОР ЗДАРЭННЯ

## КРАЙНЯЙ АКАЗАЛАСЯ АДУКАЦЫЯ

**У Гарадоцкім райвыканкаме адбылася сустрэча па выніках пажару ў в. Мехавое. Старшыня Васіль Муранкоў выявіў і пакараў вінаватых у траплянні чатырохгадовага дзіцяці ў рэанімацыю абласной бальніцы.**

Нагадаем, што 21 лютага маці пакінула чатырохгадовае дзіцяці дома без нагляду. У доме, дзе знаходзілася дзіцяці, ўзнік пажар і толькі мужныя дзеянні аднавяскоўца Яўгена Сямёнава дазволілі выратаваць дзіцяці. Але малое дзіця моцна пацярпела ад пажару і апынулася ў рэанімацыі абласной бальніцы.

Па выніках гэтага здарэння 27 лютага ў райвыканкаме адбылася нарада з удзелам кіраўнікоў школ раёна і іншых зацікаўленых асоб, якія маюць дачыненне да здарэння ў Мехавым. Абмяркоўвалася сітуацыя, чаму малое дзіця не наведвала дзіцячы садок, які размяшчаецца ў в. Бычыха пры тым, што сям'я была на ўліку, як сацыяльна небяспечная. Тлумачэнні педагогаў, што з сям'ёй праводзілася неабходная праца, але маці не жадала, каб дзіця наведвала садок на выніку абмеркавання не паўплывалі. Вялікае значэнне меў фактар трагічнага здарэння ў Шаркаўшчынскім раёне, дзе на пажары згарэла двое трохгадовых дзіцяці і высвятленнем абставін трагедыі займаўся Генеральны пракурор.

Старшыня райвыканкама Васіль Муранкоў прыняў рашэнне аб вынясенні строгіх вымоў сваёй намесніцы Надзеі Буруновай, а таксама начальніку аддзела адукацыі Аляксандру Мурашкевічу. Адначасова з гэтым сваіх пасадаў павінны быць пазбаўлены дырэктарка Бычыхінскай школы, а таксама метадыст па дзіцячых садках аддзела адукацыі. Якім жа чынам праваахоўчыя органы паўплываюць на маці пакуль невядома.

Між тым па беларускай Канстытуцыі адказнасць за выхаванне і жыццё дзіцяці нясуць бацькі. Апошнія гады ў краіне адзначаны ўзмацненнем адказнасці бацькоў за выхаванне дзяцей, калі дзяржаўныя органы пільна наглядуюць небяспечныя сем'і і прымаюць меры па пазбаўленню нядбайных грамадзян бацькоўскіх правоў. Але яшчэ не да канца адпрацаваны прававы механізм, які забараняў бы бацькам пакідаць малое дзіця дома без нагляду. У заходніх краінах між тым даўно існуе адказнасць бацькоў за недагляд за малым дзіцяці або негуманнае з ім абыходжанне. Такіх бацькоў прыцягваюць да адміністрацыйнай або крымінальнай адказнасці. І ў цывілізаваных краінах педагогі не адказваюць за бацькоў, якія не даглядаюць сваіх дзяцей.

**Л. Антонаў.**

МУЖНЫ ЎЧЫНАК

## ВЫНЕС ДЗІЦЯ З ПЫЛАЮЧАГА ДОМУ

У в. Мехавое Яўген Сямёнаў, рабочы Бычыхінскага камунальнага прадпрыемства выратаваў чатырохгадовае дзіця, якое знаходзілася ў пылаючым доме. Сямёнаў вынес дзіця з полымя ў беспрытомным становішчы.

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра МНС 21 лютага ў 11.42 у Гарадоцкае аддзяленне МНС ад суседкі паступіла паведамленне аб пажары жылога дома па адрасу ў в. Мехавое на вул. Кастрычніцкай.

Па прыбыцці да месца выкліку назіралася гарэнне ўнутры кватэры 2-х кватэрнага шчытавога жылога дома абкладзенага цэглай. Да прыбыцця падраздзяленняў МНС грамадзянінам Сямёнавым Я. Г., рабочым ўчастка Бычыхінскага камунальнага унітарнага вытворчага прадпрыемства выратаваны сын гаспадыні, які знаходзіўся дома адзін. Хлопчык спачатку шпіталізаваны ў рэанімацыйнае аддзяленне Гарадоцкай райбальніцы, а потым накіраваны ў Віцебск.

Мужчына знаходзіўся ў суседнім доме, пачуў крыкі жанчыны, якая і выклікала пажарных, аб тым, што гарыць дом і там знаходзіцца дзіця. Узламаў замок ўваходных дзвярэй, кінуўся ў дом і ў маленькім пакоі на падлозе выявіў у непрытомным стане дзіця.

У 12.14 пажар лакалізаваны, а ў 12.24 - ліквідаваны. Меркаваная прычына пажару - дзіцячае свавольства з агнём.

**Т. Гаражанка.**

## АБ'ЯВА

- *Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.*
- *Рэдакцыя "Гасцінец" змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.*
- *Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас: Гарадок, вул. Галіцкага д.16 кв.2 ў кожны аўторак і чацвер з 16 да 18, або на тэлефоны газеты «Гасцінец».*

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПРАБЛЕМА

# "УНІКАЛЬНАЯ ВАДА"

**На ускрайку Гарадка працякае ручэй з вадой, якая не замірзае і ў моцныя маразы, а таксама не скрываецца пад снегам. Мясцовыя ўлады яшчэ ніяк не варашалі, як выкарыстоўваць гэтую унікальную ваду.**

Гэты ручэй бруіць на канцы вуліцы Стара-Полацкай, якая знаходзіцца на заходнім ускрайку Гарадку. Зараз гэты ручэй аддзяляе вуліцу ад Іванаўскіх могілак. Людзі сталага веку прыгадваюць, што пры заснаванні гэтай вуліцы, вада ў дадзеным ручаі ніякімі асаблівасцямі не валодала і, як ва ўсіх навакольных ручаях, замерзала зімой і хавалася пад снегам.

Становішча змянілася з 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі на ўскрайку Гарадка пабудавалі жылы мікраёна для працоўных Гарадоцкай птушкафабрыкі. З таго часу вада ў ручаі змяніла свае уласцівасці і перастала замярзаць зімой. Месцічы не адзін раз звярталіся да кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкама, да эколагаў, што каля іх агародаў працякае каналізацыйны ручэй. Але мясцовыя чыноўнікі запэўнілі жыхароў, што гэта звычайная вада. Праўда, яны ніяк не маглі растлумачыць, чаму гэта "звычайная" вада не замярзае ў 30 градусны мароз.

Надыйшоў час, каб мясцовыя ўлады, якія ніяк не знойдуць прамых замежных інвестыцый, прапанавалі замежнымі інвестарам праект па выкарыстанню гэтай унікальнай незамярзаючай вады. На чарговы інвестыцыйны форум, што звычайна ладзіцца Віцебскім аблвыканкамам, магчыма прадставіць інвестпраект па стварэнню турыстычнага аб'екта на гэтым незамярзаючым ручаі. У капліччкі на ручаі магчыма арганізаваць фасоўку бутэлек з гэтай унікальнай вадой. Справа толькі за медыкамі, якія мусяць вызначыць "карыснасць" унікальнай вады для прафілактыкі пэўных захворванняў.

Або справа за вышэйшымі эколагамі, якія мусяць даць рэальную ацэнку якасцям вады, якая цячэ з каналізацыйнай сістэмы мікраёна шматкватэрных дамоў вул. Гагарына.

**Л. Гаравы.**

СПАРТЫЎНЫЯ СТАРТЫ

# БЕЛАРУСКАЯ ЗБОРНАЯ ПА БІЯТЛОНЕ ГАТОВАЯ ДА ЧЭМПІЯНАТУ СВЕТУ

## Расклад стартаў у Рупольдынгу

**01/03/12 - 17:30 - Эстафета змешаная 2х6 2 х7.5 км**
**03/03/12 - 14:30 - Спрынт 10 км, Мужчыны.**
**03/03/12 - 17:30 - Спрынт 7,5 км, Жанчыны.**
**04/03/12 - 15:15 - Пасьют 12,5 км, Мужчыны.**
**04/03/12 - 18:00 - Пасьют 10 км, Жанчыны.**
**06/03/12 - 17:15 - Індывідуал. 20 км, Мужчыны.**
**07/03/12 - 17:15 - Індывідуал 15 км, Жанчыны.**
**09/03/12 - 17:15 - Эстафета 4х7.5 км, Мужчыны.**
**10/03/12 - 17:15 - Эстафета 4х6 км, Жанчыны.**
**11/03/12 - 15:30 - Мас-старт 15 км, Мужчыны.**
**11/03/12 - 18:00 - Мас-старт 12,5 км, Жанчыны.**

Старэйшы трэнер жаночай зборнай Беларусі па біятлоне Андрыян Цыбульскі распавёў аб падрыхтоўцы спартсменак да чэмпіянату свету ў Рупольдынгу, паведаміўшы, што сэрвісмэны ўжо адправіліся на месца правядзення спаборніцтваў.

«Наша каманда ў нармальным рабочым рэжыме працуе на зборы ў Боденмайсе. На шчасце, усе здаровыя, Домрачава, Калінчык, Скардзіна і Дубарэзава трэніруюцца без абмежаванняў. Асноўная ўвага ўдзяляем, зразумела, фізічным кандыцыях і стральбе. Балазе, надвор'е асабліва не перашкаджае заняткаў. Пасля маразоў на двух апошніх этапах Кубка свету ў Нарвегіі і Фінляндыі дзяўчынкі адпачываюць душой. Не холадна, і няхай часам ідзе снег, але трасы падрыхтаваны добра.

Дарэчы, нашы сервісмены ўжо ў панядзелак, 20 лютага, адправіліся ў Рупольдынг, дзе арганізатары адкрылі трасы чэмпіянату свету. Адправіліся працаваць з тамтэйшым снегам. Што тычыцца трас, то як раз чакаем інфармацыі, не ўнеслі ці гаспадары зменаў. У прынцыпе, яны планавалі спрасціць адзін вельмі складаны і небяспечны спуск. Натуральна, факт адпраўкі каманды Аліўе Ганона ў Рупольдынг - несумненны плюс. Бо якое надвор'е будзе ў пачатку сакавіка - невядома, а трэба быць гатовымі да ўсіх варыянтаў. Метэаралогія ж Рупольдынгу заўсёды багатая на падступныя сюрпрызы: ад таго ж дажджу ў пачатку сакавіка заракацца не буду. Але дзяўчынкі, зразумела, марыць, каб гонкі чэмпіянату свету прайшлі ў сонечнае, ледзь марознае надвор'е, каб траса была жорсткай. Магчыма, нават і 0 градусаў ці нязначны плюс будзе добрым варыянтам. Немцы так рыхтуюць лыжню, што яна трымае і пры такой тэмпературы «, - распавёў Цыбульскі» Спартыўнай панараме «.

Вядучы спартовы партал Goals.by пазнаёміўся з Настассяй Дубарэзавай. У інтэрв'ю Андрэя Маслоўскага Настасся Дубарэзава, паўстала надзвычай разважлівай, распавяла пра тое, чаму памяняла лыжы на біятлон, высока ацаніла працу Клаўса Зіберта, распавяла аб адсутнасці зайздрасці да Дар'і Домрачавай і прыяцельскіх адносінах са сваім арганізмам, а таксама прызналася, што вельмі любіць катацца конна на конях і хоча асвоіць дзікі фініш Петэра Нортуга. Інтэрвью размешчана і на нашым сайце: http://haradok.info

**Л. Антонаў.**

ЦЯЖКАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# Са старта не рванулі

**На першы квартал 2012 году Фондам "Віцебскаблмаёмасць" запланавана выставіць на аукцыёны толькі пяць лотаў маёмасці. Гэта мізэрная частка з некалькіх соцен невыкарыстоўваемых аб'ектаў камунальнай і рэспубліканскай уласнасці, якія ёсць на Віцебшчыне. На Гарадоччыне адсотак невыкарыстоўваемых аб'ектаў адзін з самых вялікіх па рэгіёну, але ў першым квартале выстаўлены толькі адзін лот.**

Гарадоцкі райвыканкам напрыканцы студзеня зацвердзіў графік уцягнення ў гаспадарчае абарачэнне невыкарыстоўваемых аб'ектаў камунальнай уласнасці, які складзены з 59 аб'ектаў. Толькі фармальна гэта графік уцягнення ў гаспадарчае абарачэнне, бо значнае частка аб'ектаў падлягае зносу. Але аб гэтым распавядзём у іншай нататцы.

Уцягненне у гаспадарчае выкарыстанне уласнікамі маёмасці не магчыма, бо не хапае або фінансаў для рэканструкцыі аб'екта, або няма рэалістычных бізнес-праектаў аб'ектаў, або аб'ект фактычна падлягае сапраўднаму зносу. І толькі райвыканкамы ўносяць у графік уцягнення.

Да такіх аб'ектаў, якія падлягаюць зносу, маецца поўная падстава аднесці былы будынак ваенкамата, які размяшчаецца ў Гарадку па вул. Чырвонаармейская д.21..(сайт Фонда "Віцебскаблмаёмасць" www.fondgosim.vitebsk.by/n03202012.htm ) Пры атрыманні Гарадоцкім ваенкаматам новага памяшкання састарэлы будынак адыйшоў да камунальнікаў, а зараз ва ўласнасці прадпрыемства кацельных. Гэты драўляны будынак быў пабудаваны без малага сто гадоў назад – ў 1928 годзе. Але сёняшні гаспадар мусіць яго ўцягнуць у гаспадарчае выкарыстанне праз продаж. Кошт састарэлага будынка не вельмі вялікі пасля мінулагодняй дэвальвацыі -- 42 мільёна рублёў. Але набыццё гэтага будынка абстаўлена ўмовамі, якія ніяк не стымулююць гэту пакупку.

У гэтым непрыстасаваным будынку, які мае невядомае прызначэнне неабходна стварыць дзесяць (!) працоўных месцаў на працягу года, якія павінны дзейнічаць аж пяць гадоў! Не будзем казаць, што зямля пад ім прадстаўляецца ў арэнду. Але ад гэтага даўно адыйшлі нашу суседзі, якія клапоцяцца пра развіццё прадпрымальніцтва. Напрыклад, літоўцы даўно прадаюць зямлю прадпрымальнікам і не задурваюць ім галаву састарэлымі будынкамі.

Між тым гэтае месца само па сабе даволі прывабнае і на ім магчыма размясціць добрае прадпрыемства. Але гэта прадпрыемства павінна размясціцца ў сучасным будынку, каб яно магло замацавацца на рынку. Толькі наша вышэйшае чынавенцтва не улічвае такія моманты развіцця прадпрымальніцтва.

Тут да месту гісторыя з прадажай праз аукцыён паштовых будынкаў у вёсках Прывальні і Азёркі. На працягу мінулага году іх некалькі разоў выстаўлялі на аукцыён, але умовы продажу і арэнды зямлі нікога не прывабілі. І на гэты год РУП "Белпошта" плануе знесць гэтыя будынкі за свой кошт. Ці не лепш было б іх прадаць за сімвалічны кошт, каб уласнік сам вырашыў іх лёс, а не дарма траціць дзяржаўныя грошы на знішчэнне састарэлых будынкаў? Такія паводзіны дзяржавы з'яўляюцца, як трапна кажуць, паводзінамі сабакі на сене.

ТРАГІЧНЫЯ ВЫПАДКІ

# ЧАРГОВАЯ СМЕРЦЬ АД ЧЫРВОНАГА ПЕЎНЯ

**26 лютага ў Гарадку адбыўся пажар пад час якога загінуў працуючы мужчына і быў пашкоджаны двухкватэрны дом.**

Раніцай 26 лютага ў Гарадку ў мікраёне за чыгункай – Латышоўцы загарэлася кватэра, у якой пражываў саракагадовы грамадзянін. Суседзі заўважылі полымя і паспрабавалі выратаваць гаспадара, але зачыненыя дзверы не адкрываліся. Спроба пранікнуць у жытло праз вакно прывяла да ўзбуйнення полымя і распаўсюду яго на другую кватэру.

Прыбыўшыя на месца пажара выратавальнікі здолелі патушыць полымя, але ў ім ужо загінуў гаспадар кватэры. Папапярэдняй версіі прычынай пажару стала неасцярожнае абыходжанне з паленнем. Гэта ужо другі пажар за тыдзень на Гарадоччыне, які прынёс небяспеку жыццю людзей. І калі у в. Мехавое выратавалі з полымя дзіця, то ў Гарадку на гэта не было шанцаў.

**Т. Гаражанка.**

БРАКАНЬЕРСТВУ – БОЙ!

# ГАРАДОЦКІЯ ІНСПЕКТАРЫ ВЫЯВІЛІ БРАКАНЬЕРАЎ НА ШУМІЛІНШЧЫНЕ

Супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету на працягу двух дзён выявілі трох браканьераў у вёсках Шуміліншчыны, якія карысталіся петлямі для палявання на дзікоў.

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра Дзяржінспекцыі, 13 лютага работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі і ДЛГУ «Шумілінскі лясгас» выявілі тушу дзіка ў пятлі. Гэта цяжкае відовішча паўстала перад поглядам дзяржінспектараў паблізу падкормачнай пляцоўкі ў арандаваных лясгасам паляўнічых угоддзяў. Непадалёку знайшлі яшчэ тры пятлі. Сляды на снезе прывялі інспектараў да дома аднаго сельскага жыхара. Узбуджана крымінальная справа.

Падобны выпадак стаў вядомы гарадоцкім дзяржінспектарам і праз дзень. Па выяўленых парэштках дзіка было заўважана, што жывёлу здабывалі пятлёй, а паблізу знаходзіліся яшчэ дзве пятлі. Сляды прывялі да вясковага дому непрацуючага Ш. Пры аглядзе яго жылля было выяўлена 8 кілаграмаў мяса дзічыны. Пэўныя доказы - поўсць дзіка - былі заўважаны на сцежцы непадалёк ад дома. Гэтая сцежка вяла ў суседнюю вёску, дзе ў доме непрацуючага Д. таксама захоўвалася мяса дзічыны. Узбуджана крымінальная справа.

**Т. Гаражанка.**

НА АХОВЕ ПРАВАПАРАДКУ

# ДАПАМАГЛІ ЗАТРЫМАЦЬ МАХЛЯРКУ, ЯКАЯ СКРАЛА ГРОШЫ

На Дзень Святога Валянціна маладая жанчына падманула 86-ці гадовую пенсіянерку і скрала з яе кватэры 900 тысяч рублёў. Здарэнне адбылося ў Віцебску, але і Гарадоцкае аддзяленне дэпартамента аховы аказала садзейнічанне ў затрыманні махляркі.

Паводле інфармацыі прэсслужбы Віцебскага УУС, 14 лютага ў 16 гадзін у Чыгуначны РАУС г. Віцебска звярнулася пенсіянерка 1926 года нараджэння. Заяўніца распавяла, што сорак пяць хвілін назад да яе ў кватэру, прадставіўшыся суседкай, зайшла неўстаноўленая дзяўчына. Пасля непрацяглай гутаркі маладая жанчына сайшла і пасля яе выхаду выявілася прапажа грошаў у суме 900 тыс. рублёў. Міліцыянтамі РА Дэпартамента аховы Чыгуначнага раёна і далучыўшыміся да пошука махляркі міліцыянтамі Гарадоцкага раёна, супрацоўнікамі АКВ РАУС і ГПА УУС ўстаноўлена, што злачынства здзейсніла непрацуючая 1979 года нараджэння, жыхарка гор. Навалукомля.

15 лютага АСК ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК. За крадзёж з пранікненнем у жытло прыдугледжваюцца розныя віды пакарання: ад выпраўленчых работ да двух гадоў да пазбаўлення волі на тэрмін да чатырох гадоў.

**Т. Гаражанка.**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО НАЗВАЛ ЗАРПЛАТУ 500 ДОЛЛАРОВ НИЗКОЙ

ГЛАВА БЕЛАРУСИ ПОТРЕБОВАЛ В КРАТЧАЙШИЕ СРОКИ НЕ ПРОСТО ВЫЙТИ НА ДОКРИЗИСНЫЙ УРОВЕНЬ ДОХОДОВ, А ПРЕВЗОЙТИ ЕГО: «ЕСЛИ МЫ ПОЗИЦИОНИРУЕМ СЕБЯ, КАК СТРАНА САМОДОСТАТОЧНАЯ, КОТОРАЯ ЧЁ-ТО МОЖЕТ…»

Эта тема вновь всплыла 21 февраля во время рассмотрения Александром Лукашенко кадровых вопросов. Руководитель Беларуси говорил, как заправский оппозиционер:

– Что такое средняя зарплата в 500 долларов на человека? Это совсем низкий уровень…

Стоит отметить, что в декабре 2011 года средняя зарплата в Беларуси составила, по данным Национального статистического комитета, 2 877 658 рублей, или 344 доллара в эквиваленте, если для пересчета использовать курс Нацбанка на 1 января 2012 года. Получается, что до «низкого уровня» нам еще очень далеко.

Однако Александр Лукашенко оптимистично поставил задачу на протяжении года-полутора не просто выйти на докризисный уровень доходов, а превзойти его. «Если мы позиционируем себя, как страна самодостаточная, которая чё-то может», – добавил глава государства.

Впрочем, «Салідарнасць» припоминает, что задача превзойти 500-долларовую отметку уже ставилась. И было это четыре года назад.

29 апреля 2008 года, выступая с посланием к белорусскому народу, Александр Лукашенко обратился к тогдашнему премьер-министру Сергею Сидорскому:

– Сергей Сергеевич, надо возвращаться к требованию повышения заработной платы. Другого пути нет. На конец пятилетки нам надо заработную плату довести, боюсь говорить, до 700 долларов, никуда не денемся. 500 долларов будет мало. Надо 700 – среднюю зарплату по стране.

Глава правительства взял под козырёк. Зарплату стали наращивать, но через восемь месяцев грянула знаменитая новогодняя девальвация. С тех пор о 700 долларах никто даже не заикался.

Вторая попытка взять 500-долларовую планку закончилась еще веселее. После краткого периода благоденствия рубль в середине 2011-го обвалился со страшным треском.

И вот объявлен третий заход. Чем он закончится, вы уже знаете…

**Вадим Ливнев.**

СЛОВЫ І СПРАВЫ

# ЭКСПАРТНЫ ЦУД БЕЛАРУСІ: ЯК КРАІНА ЗАВАЯВАЛА ЕЎРАСАЮЗ

БЕЛАРУСЬ У 2011 ГОДЗЕ ДАСЯГНУЛА РЭКОРДНАГА ЗА ЎСЮ СУВЕРЭННУЮ ГІСТОРЫЮ АБ'ЁМУ ЭКСПАРТУ. ЗВЯРТАЕ НА СЯБЕ ЎВАГУ ТОЙ ФАКТ, ШТО ЭКСПАРТНЫ БУМ БЫЎ ЗАБЯСПЕЧАНЫ ШМАТ У ЧЫМ ЗА КОШТ ПАСТАВАК БЕЛАРУСКАЙ ПРАДУКЦЫІ Ў КРАІНЫ ... ЕЎРАСАЮЗА. НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СКЛАДАНЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ АДНОСІНЫ, КРАІНЫ ЕС З РАДАСЦЮ ГАНДЛЮЮЦЬ З БЕЛАРУССЮ, ЯКАЯ ЗАБЯСПЕЧВАЕ ЗАХАД НАФТАПРАДУКТАМІ І НАВАТ НАФТАЙ.

**Палітычныя сябры шкодзяць беларускаму гандлю**

У 2011 годзе, паводле дадзеных афіцыйнай статыстыкі, Беларусь экспартавала тавараў на суму 40,3 млрд. даляраў і павялічыла гэты паказчык у параўнанні з 2010 годам амаль на 60%.

Дзякуючы рэзкаму росту экспарту нашай краіне ў мінулым годзе ўдалося паменшыць адмоўнае сальда гандлёвага балансу, якое, як вядома, з'яўляецца коранем шматлікіх эканамічных праблемаў Беларусі. Калі ў 2010 годзе краіна мела адмоўнае сальда ў знешнім гандлі таварамі на ўзроўні 9,6 млрд. даляраў, то ў 2011-м - 5,45 млрд. даляраў.

Праўда, як гэта ні парадаксальна, нашы палітычныя саюзнікі (Расія, Кітай, Венесуэла) толькі пагаршалі гандлёвы баланс Беларусі.

Адмоўнае сальда ў знешнім гандлі з Расеяй вырасла ў 2011-м з 8,13 млрд. да 11,24 млрд. даляраў. Імпарт тавараў з Кітая перавысіў беларускі экспарт у гэтую краіну на 1,55 млрд. даляраў (у 2010-м адмоўнае сальда складала 1,2 млрд. даляраў). Нарэшце, «мінус» у гандлі з Венесуэлай у мінулым годзе склаў 931 млн. даляраў, што больш чым на 80 млн. перавышае адмоўнае сальда за 2010 год.

Цяпер паглядзім на гандлёвыя адносіны з нашымі палітычнымі апанентамі - краінамі Захаду. Адносіны ў нас з гэтымі краінамі настолькі дрэнныя, што падставы для папрокаў ўзнікаюць ці ледзь не кожны дзень. За апошні тыдзень беларускія ўлады тройчы крытыкавалі Захад (17 лютага МЗС асудзіў рэзалюцыю Еўрапарламента, 21 лютага - польскіх парламентарыяў за «канспіратыўных» візіты », а 23 лютага ўжо Аляксандр Лукашэнка абвінавацію Захад у спробах «гвалтоўнай змены ўлады»).

Тым не менш, складаныя палітычныя адносіны зусім не перашкаджаюць Беларусі развіваць гандаль з краінамі ЕС. Скажам больш: калі б не Еўрасаюз, ніякай станоўчай дынамікі ў знешнім гандлі Беларусі ў 2011 годзе не было б і ў памоўцы.

Дынаміка экспарту беларускіх тавараў у 2000-2011 гг. (млн. даляраў)




Крыніца: Белстат

**Нафтавы донар Еўрасаюза**

За мінулы год беларускі экспарт у краіны Еўрасаюза вырас больш чым у два разы - з 7,6 млрд. да 15,7 млрд. даляраў. У той жа час імпарт з Еўрасаюза вырас прыкладна толькі на мільярд даляраў. Станоўчае сальда ў гандлі з Еўрасаюзам склала ў 2011 годзе 7 млрд. даляраў (для даведкі: у 2010-м станоўчае сальда знаходзілася на адзнацы 50 млн. даляраў).

Адбыліся змены, зрэшты, не азначаюць, што беларуская прадукцыя ў мінулым годзе стала сверхконкурентоспособной і вельмі запатрабаванай у краінах Еўрасаюза.

Прычыны росту беларускага экспарту ў ЕС прынцыпова ў іншым. У мінулым годзе Беларусь амаль на 40% (дзякуючы ўрэгуляванні нафтавага спрэчкі з Расеяй у студзені 2011 г.) павялічыла імпарт нафты і дзякуючы гэтаму нарасціла экспарт нафтапрадуктаў у Еўрасаюз.

Так, фізічны аб'ём экспарту беларускіх нафтапрадуктаў у Нідэрланды павялічыўся з 5 млн. тон у 2010-м да 7,2 млн. тон у мінулым годзе, у Латвію - з 853 тыс. тон да 1,9 млн. тон, у Італію - са 182 тыс. да 653,6 тыс. тон. Да гэтага варта дадаць, што павелічэнню экспартнай выручкі спрыяў і той факт, што за мінулы год, па дадзеных Белстата, сярэдня

Уклад нафтапрадуктаў у экспарт беларускіх тавараў у ЕС

| | Экспорт нефтепродуктов (в млн. долларов) | Общий объем экспорта (в млн. долларов) |
|---|---|---|
| Нидерланды | 5477 | 6157,9 |
| Латвия | 1640 | 3150,8 |
| Эстония | 439,6 | 578,2 |
| Великобритания | 379,8 | 406,9 |
| Италия | 375 | 553,3 |
| Польша | 283,8 | 1123,2 |
| Литва | 247,2 | 859,3 |

Крыніца: Белстат

цэны на нафтапрадукты выраслі на знешніх рынках на 35%.

Пералічаныя фактары дазволілі Беларусі прыкметна павялічыць вартасны аб'ём экспарту ў краіны ЕС і забяспечыць істотнае станоўчае сальда ў гандлі з Захадам.

Праўда, быў і яшчэ адзін фактар, які дазволіў нашай краіне прыкметна павялічыць пастаўкі айчыннай прадукцыі на еўрапейскі рынак.

У 2011 годзе беларускі экспарт у Германію вырас у чатыры разы. Як вы думаеце, за кошт чаго? Беларусь туды стала пастаўляць ... нафту.

У 2011 годзе Расея забяспечыла беларускія НПЗ вуглевадароднай сыравінай, і ў нашай краіны, якая здабывае на сваёй тэрыторыі каля 1,7 млн. тон нафты, з'явілася магчымасць яе экспартаваць. У 2011 годзе Беларусь амаль усю сваю нафту на суму 1,29 млрд. даляраў паставіла ў Германію.

Сумарна нафтавай экспарт Беларусі (нафта плюс нафтапрадукты) у ЕС склаў у 2011 годзе каля 10,4 млрд. даляраў. Такім чынам, атрымліваецца, што беларускі экспарт у ЕС на дзве траціны з'яўляецца нафтавым. Вуглевадароды з'яўляюцца галоўным звяном, якое аб'ядноўвае сёння Беларусь з Еўрапейскім саюзам. Іншых шляхоў (ні эканамічных, ні палітычных) развіцця супрацоўніцтва Беларусі з ЕС сёння не прaглядаецца.

**Дзмітрый Заяц.**

НАША САЛІДАРНАСЦЬ

# «Хто найперш варты званьня рыцара - гэта Мікалай Статкевіч»

МІКОЛУ СТАТКЕВІЧА ЎЗНАГАРОДЗІЛІ ПРЭМІЯЙ ІМЯ ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ «З УЗЬНЯТЫМ ЗАБРАЛАМ» ЗА МУЖНАСЬЦЬ У АБАРОНЕ РАДЗІМЫ, ЯКУЮ ТРАДЫЦЫЙНА ЎРУЧАЮЦЬ ДА 23 ЛЮТАГА ПРАВААБАРОНЦЫ ЦЭНТРУ ПРАВАВОЙ ДАПАМОГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ І ЦЭНТРУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА.

Ляўрэатам прэміі імя Юрыя Захаранкі «З узьнятым забралам» за 2011 год стаў былы кандыдат на прэзыдэнта Мікалай Статкевіч. Абвяшчаючы гэтае рашэньне, кіраўніца Цэнтру правоў чалавека Раіса Міхайлоўская адзначыла мужнасьць палітыка, які не скарыўся падчас сьледзтва і ў беларускіх турмах, куды яго кінулі за палітычную барацьбу. Паводле Раісы Міхайлоўскай, камісія, якая вырашала лёс прэміі «З узьнятым забралам» за 2011 год, выбрала Міколу Статкевіча аднагалосна.

Праваабаронца Алег Воўчак адзначыў нязломнасьць і мужнасьць Статкевіча як чалавека і палітыка:

«Я ўжо 14 гадоў займаюся праваабарончай дзейнасьцю і бачу, як некаторыя палітыкі губляюцца, сыходзяць, а вось Мікалай — не, Мікалай ідзе да апошняга. Ён сапраўды ахвяруе сабой для Радзімы».

За 2010 год прэміяй «З узьнятым забралам» быў ушанаваны былы кандыдат на прэзыдэнта Уладзімер Някляеў. Ён тады сядзеў у «амэрыканцы», і дыплём за яго прымала жонка Вольга. «Сёньня я на волі і пераканаваны, што наступную прэмію ўручыць будучаму ляўрэату сам Мікалай Статкевіч», — сказаў Уладзімер Някляеў падчас уручэньня ганаровага дыплёма жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч:

«Калі б зараз былі рыцарскія часы і мы б насілі шчыты і мячы, то з поўным правам на шчыце Міколы Статкевіча было б напісана „Рыцар бяз страху і папроку". Па сёньняшнім часе ён, можа, адзіны, хто мае поўнае права мецъ на сваім шчыце гэты надпіс».

Таксама Уладзімер Някляеў зачытаў верш, які напісаў для Міколы Статкевіча Рыгор Барадулін. Уладзімер Някляеў сустракаўся з народным паэтам і прынёс на ўручэньне прэміі аркуш з радкамі Барадуліна:

**«Міколу Статкевічу**

*Мужнасьць*
*гартавалася заўсёды*
*Ў небадарным полымі*
*сьвятла.*
*Не здаюцца рыцары*
*свабоды,*
*Каб нязломнай*
*Беларусь*
*была.*

**24.02.2012,**
**Рыгор Барадулін»**

Атрымліваючы ганаровы дыплём, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч сказала, што абавязкова перадасьць яму ў Магілёўскую турму навіну пра ўшанаваньне яго ганаровай прэміяй.

«А што да добрых словаў пра майго мужа, то лепш за адміністрацыю калёніі ня скажаш, калі яны напісалі, што на шлях выпраўленьня ён ня стаў. Калі ў нашай краіне змагацца за сваю Радзіму — гэта злачынства, то хай ён будзе самым злосным злачынцам», — пажартавала жонка палітвязьня.

**Радыё Свабода.**

ПРАБЛЕМЫ ЧЭМПІЯНАТА

# ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014: НЕ ПЕРАНОС З БЕЛАРУСІ, ДЫК БАЙКОТ?

ЕЎРАПЕЙСКАЯ НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ ЗАКЛІКАЛА СПАРТЫЎНЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ ЕС ПЕРАНЕСЦІ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ 2014 ГОДА З БЕЛАРУСІ АЛЬБО БАЙКАТАВАЦЬ ЯГО.

У рэзалюцыі, прынятай Палітычнай асамблеяй ЕНП, гаворыцца, што рэжым Лукашэнкі пазбавіў беларусаў асноўных правоў чалавека, у краіне няма дэмакратыі і вяршэнства закону, а таксама фальсіфікуюцца вынікі выбараў.

ЕНП выступае за тое, каб на наступным з'ездзе Міжнароднай федэрацыі хакею, які адбудзецца ў траўні ў Хельсінкі, было прынятае рашэнне аб пераносе чэмпіянату свету-2014 у іншае месца да таго часу, пакуль у Беларусі не адбудзецца зменаў у бок дэмакратызацыі. У выпадку, калі такое рашэнне не будзе прынятае, Еўрапейская народная партыя заклікае ўсе федэрацыі хакею краінаў Еўрасаюза і іншых дэмакратычных дзяржаваў байкатаваць гэтыя спаборніцтвы на тэрыторыі Беларусі.

Еўрапейская народная партыя мае самую вялікую фракцыю ў Еўрапейскім парламенце. Яна аб'ядноўвае правацэнтрысцкія партыі Еўропы. Рух "За Свабоду" супрацоўнічае з ЕНП. Лідар руху Аляксандр Мілінкевіч рэгулярна бярэ ўдзел у самітах Еўрапейскай народнай партыі, на якія з'язджаюцца ў тым ліку кіраўнікі многіх краінаў, уваходзячых і не ўваходзячых у ЕС, альбо лідары апазіцый.

РОДНАЕ СЛОВА

# «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ

ТЭЛЕКАНАЛ «БЕЛСАТ» ПАДТРЫМЛІВАЕ V АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНУЮ ДЫКТОЎКУ, ЯКАЯ ПАЧНЕЦЦА 21 ЛЮТАГА, У МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ. ЯНА ПРОЙДЗЕ ЗА ТРЫ ЭТАПЫ, НАСТУПНЫЯ ДВА ЗАПЛАНАВАНЫЯ НА 15 І 25 САКАВІКА. СЁЛЕТНЮЮ ДЫКТОЎКУ ТРАДЫЦЫЙНА АРГАНІЗОЎВАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ (ТБМ).

Старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа: «Нашая мэта – заклікаць людзей да дыктоўкі, даць ім тэксты, а далей ужо ідзе вольны валанцёрскі рух».

Дыктоўка валанцёрская, а значыць пісаць яе можна не толькі на сядзібе ТБМ, на ўроках літаратуры, слухаючы радыё або ўключыўшы «Белсат», але і зладзіўшы дыктоўку разам са сваімі блізкімі ды сябрамі.

Сёлетнюю дыктоўку арганізатары прысвяцілі юбілеям трох беларускіх літаратараў: Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы. Тэксты прапаноўваюцца на выбар – гэта праграмны верш Максіма Танка і малавядомы ліст Янкі Купалы.

Зміцер Саўка, кіраўнік моўнай службы «Белсату», зазначае: «Дыктоўка – гэта арыгінальны спосаб заявіць пра ненармальнасць сітуацыі. Калі б у нас беларуская мова займала належнае месца ў штодзённасці, то, відаць, людзі б «пісалі дыктоўку» штодня. Інакш кажучы, яны запаўнялі б нейкія бланкі, яны пісалі б штосьці сваім калегам. А тут мы паказваем, што мала беларускай мовы ў штодзённасці, мала мы ёй карыстаемся. Давайце рабіць гэта часцей. І вось наўмыснасць такога, у пэўным сэнсе бессэнсоўнага дзеяння напаўняе яго не фармальным, а сімвалічным сэнсам».

Сімвалічныя выявы Максіма Танка, Якуба Коласа і Янкі Купалы будуць прысутнічаць на паперы і асадках, якія ўдзельнікі дыктоўкі атрымаюць ад «Белсату».

«Беларуская мова павінна быць у нашай штодзённасці, і дыктоўка павінна быць штодня ў кожнага чалавека, які ўмее пісаць. На жаль, гэтага няма, таму мы робім дыктоўку наўмысна», – падкрэслівае Зміцер Саўка.

Дыктоўку можна будзе напісаць і праз інтэрнэт. Відэадыктоўка, прачытаная славутаю беларускаю тэлевядоўцаю Зінаідаю Бандарэнкаю, будзе размешчаная на сайце www.belsat.eu.

## РОДНАЯ МОВА

**Максім Танк**

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучагаззяння бурлівых крыніц.*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што ляго назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова.*
*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй –*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*
*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змаганняў суровых.*
*Калі ж ападзе і развеецца дым*
*І нівы ваксросшыя закаласяцца, –*
*Ізноў прашуміш ты вясновым даждҗом,*
*Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сарэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*
*1943*

ЕЎРАПЕЙСКІ КІРУНАК

# ПРАВЕРКА НА ЯЙЦЫ

ЗАЯВА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ ПРА МАГЧЫМЫЯ ДЗЕЯНЬНІ АФІЦЫЙНАГА МЕНСКУ Ў АДКАЗ НА ЭЎРАПЕЙСКІЯ САНКЦЫІ – ДЭМАНСТРАЦЫЯ "НЕНАХІЛЯЛЬНАСЬЦІ", РЭАЛІЗАЦЫЯ ПРЫНЦЫПУ "ЛЕПШАЯ АБАРОНА – ГЭТА НАСТУП". АДНАК ПАКУЛЬ ДЭМАНСТРУЕЦЦА АДНО – НАМЕР, ПАГРОЗА, КІРАЎНІК БЕЛАРУСІ НЕ ПАВЕДАМІЎ, ДЗЕ ПРАЛЯГАЕ ПРЫГАДАНАЯ ІМ "ЧЫРВОНАЯ ЛІНІЯ", ПАСЬЛЯ ПЕРАХОДУ ЯКОЙ ГЭТЫЯ ПАГРОЗЫ МОГУЦЬ СПРАЎДЗІЦЦА.

Словы, што Беларусь будзе абараняцца, "нават калі мы застанёмся ў адзіноце, без Расеі, Кітаю, бязь іншых нашых сяброў", ускосна сьведчаць пра тое, што звароты Менску да Масквы і Астаны праявіць салідарнасьць у гэтым пытаньні засталіся, гледзячы па ўсім, без станоўчага адказу.

Тым ня менш сёе-тое Менск сапраўды можа ў адказ зрабіць. Гэта найперш зваротныя візавыя санкцыі, што дыпламатычна карэктна, але па сутнасьці сьмешна – чыноўнікі ЭЗ ня так і рвуцца ў «сінявокую».

Больш сур'ёзная мера – дэманстратыўнае ўзмацненьне жорсткасьці рэпрэсіяў супраць апазыцыі і грамадзянскай супольнасьці, каб паказаць, што эфэкт санкцый супрацьлеглы чаканаму. Нарэшце, гэта эканамічныя меры ў адказ – гэта варыянт найбольш эфэктыўны, але і найбольш небясьпечны для самога афіцыйнага Менску. Вайну нэрваў можна і прайграць, асабліва з улікам несувымернасьці эканамічных патэнцыялаў.

Аднак пагрозы могуць пэўны плён і прынесьці. Час для заявы Лукашэнка абраў невыпадкова. Нядаўні візыт у Беларусь прадстаўніка зьнешнепалітычнай службы ЭЗ Гунара Віганда, заявы, зробленыя ім у Менску, паказалі, што Эўропа знаходзіцца на пэўных ростанях – працягваць ранейшую палітыку адносна Беларусі ці карэктаваць.

Віктар Марціновіч нядаўна ў сваім блогу абураўся млявым тонам эўрапейскай дыпламатыі. Аднак гэтая млявасьць можа быць абумоўленая тым, што Беларусь насамрэч мае для Эўропы, як гэта горка ні гучыць, другараднае значэньне.

Тон размоваў, скажам, з Сырыяй ці Іранам зусім іншы. У адрозьненьне ад гэтых краін, адносіны ЭЗ зь Беларусьсю не зьвязаныя з праблемамі міжнароднай бясьпекі. На Іран ціснуць не таму, што ён парушае правы чалавека (хаця і парушае), а таму што іранская атамная бомба ёсьць пагроза рэгіянальнай і сусьветнай стратэгічнай стабільнасьці. Беларусь на гэтую стабільнасьць не замахваецца, палітыка санкцый ЭЗ адносна яе мае галоўным чынам маральную матывацыю. А з нагоды гэтай матывацыі варта прыгадаць зьедлівую рэпліку Генры Кісынджэра, сказаную ў сувязі з вайной у Косаве, але ня толькі: «Жаданьне заходніх дэмакратычных краін ісьці на рызыку ў імя абароны маральных каштоўнасьцяў вызначаецца вышынёй палёту іх бамбавікоў». Сваёй заявай Лукашэнка імкнецца павысіць рызыку палітыкі каштоўнасьцяў для Эўропы, фігуральна кажучы, «зьнізіць вышыню палёту» эўрапейскіх палітычных «бамбавікоў».

Ці дасьць гэта плён? Магчыма (і нават хутчэй за ўсё) гэтыя грозныя абяцаньні Лукашэнкі – проста блеф. Пра магчымасьць дзеяньняў афіцыйнага Менску ў адказ гаварылася ня раз, як, дарэчы, неаднаразова гучалі і абяцаньні дакладна палічыцца, хто і колькі каму вінны ў адносінах Беларусі і Расеі. Але дагэтуль гэтыя пагрозы ніколі не спраўджваліся.

У міжнароднай палітыцы пагроза часам мацней за яе выкананьне. І сёньняшнія заявы Лукашэнкі заснаваныя хутчэй за ўсё на яго меркаваньні, што «ў эўрапейскіх лідэраў няма яец». Рэакцыя Эўропы будзе ў пэўнай ступені праверкай, ці мае рацыю кіраўнік Беларусі.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

# КТО ВИДЕЛ «ЕВРОФЕСТ», ТОТ В ЦИРКЕ НЕ СМЕЕТСЯ

С ОТБОРОМ НАЦИОНАЛЬНОГО ИСПОЛНИТЕЛЯ НА "ЕВРОВИДЕНИЕ" ХОТЕЛИ ИЗОБРАЗИТЬ СКАЗКУ ПРО ЗОЛУШКУ, А ПРЕДЪЯВИЛИ ПУБЛИКЕ ПАРВЕНЮ. "ДЕВОЧКА-СИРОТА, КОТОРАЯ ВСЕГО ДОБИЛАСЬ САМА", ОКАЗАЛАСЬ КАК МИНИМУМ НЕ СИРОТИНУШКОЙ. И КАК МАКСИМУМ – ДОБИЛАСЬ СОМНИТЕЛЬНОЙ РЕПУТАЦИИ.

Алена Ланская пока пребывает в образе жертвы и отказывается общаться с журналистами. А все, кто подыгрывал этому шоу, ищут себе новое амплуа.

Организаторы фестиваля «Еврофест» – Александр и Анастасия Тихановичи, которых на совещание к Лукашенко не пригласили, – провели истеричную пресс-конференцию с заламыванием рук: «Не виноватые мы!» Министр культуры Павел Латушко прочитал пред президентом покаянную речь по бумажке. «Не причастен, не участвовал, поручений не давал, узнал на сцене, должен был, самокритично оцениваю...»

Главный спонсор, связь фамилии которого с Ланской для всех более-менее причастных давно является секретом Полишинеля, решил обидеться и соскочить. «Для всех нас очень важно, чтобы наша страна хорошо позиционировалась в Европе, чтобы мы действительно показали, что мы гордая независимая и достаточно культурная, образованная страна. И что мы можем сегодня достойно представлять нашу эстраду на европейском рынке, – произнес заученную фразу глава «Амкодора» Александр Шакутин, но далее речь пошла не так гладко. – Но, к сожалению, события, которые произошли потом, в том числе после голосования, и та грязь, которая вылилась в Интернете... Я когда прочитал... Мне, Александр Григорьевич... Позвольте я окажу финансовую помощь, но идеологически участвовать в этом мероприятии и доведении его до финала мне сложно как мужчине. Потому что я никогда в этой жизни не позволял обижать женщин».

Однако всех превзошел глава Национальной телерадиокомпании Геннадий Давыдько, который даже в этой куче навоза, вывалившейся в связи с «Еврофестом», решил поискать что-нибудь для себя полезное.

– Данная ошибка (это ошибка, я ее признаю) – невнимательность к процедуре подсчета голосов – сделала меня мудрее и опытнее как руководителя, – скромно подытожил Давыдько.

Без слов, как говорится. Потому что в итоге в этой истории нашелся Баранов на заклание (как написал Сергей Малиновский). Оказывается, это продюсер Дмитрий Викторович Баранов, правая рука Тихановичей, в отечественном шоу-бизнесе является самым влиятельным и инициативным.

**Светлана Калинкина.**

КАНФЛІКТ З ЕЎРОПАЙ

# ЭЎРАЗЬВЯЗ АДКЛІКАЕ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ МЕНСКУ

«КРАІНЫ ЭЎРАПЕЙСКАГА ЗЬВЯЗУ НА ЗНАК САЛІДАРНАСЬЦІ АДКЛІЧУЦЬ СВАІХ АМБАСАДАРАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ», — ЗАЯВІЛА КІРАЎНІЦА ЭЎРАПЕЙСКАЙ ДЫПЛЯМАТЫІ КЭТРЫН ЭШТАН. УСЕ КРАІНЫ ЭЎРАЗЬВЯЗУ ТАКСАМА ВЫКЛІЧУЦЬ БЕЛАРУСКІХ АМБАСАДАРАЎ У СВАЕ МІНІСТЭРСТВЫ ЗАМЕЖНЫХ СПРАВАЎ.

Рашэньне было прынятае пасьля тэрміновай нарады, якую Кэтрын Эштан склікала ў Брусэлі пасьля зьяўленьня інфармацыі пра тое, што афіцыйны Менск запрапанаваў амбасадарам Польшчы і ЭЗ у Менску ад'ехаць у свае краіны на кансультацыі.

Пасьля нарады прэсавая сакратарка Эштан Мая Кацьянчыч заявіла:

«На знак салідарнасьці і еднасьці мы дамовіліся, што пасьлы краінаў Эўразьвязу ў Менску будуць усе адкліканыя для кансультацыяў у свае краіны. Усе краіны Эўразьвязу таксама выклічуць беларускіх амбасадараў у свае міністэрствы замежных справаў».

Раней міністар замежных справаў Нямеччыны Гіда Вэстэрвэле заявіў у Брусэлі, што Бэрлін адкліча свайго пасла зь Менску, бо «захады супраць ЭЗ і Польшчы — гэта таксама захады супраць Нямеччыны».

МЗС Польшчы назваў крокі Менску «непрыязнымі», а канцылярыя прэзыдэнта Браніслава Камароўскага паінфармавала, што прэзыдэнт «са шкадаваньнем усприняў інфармацыю аб гэтым незразумелым рашэньні».

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),

**Падпісана да друку 29.02.2012 у 20.05.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтара.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.